# Скоп'е сімвал сусветнага гуманізму

У сталіцы Македоніі — Скоп'е — я быў дакладна чатыры гады таму. Панавала такая самая ліпеньская спякота, а гэты горад поўны архітэктурных багаццяў наведвалі тысячы турыстаў. Я разам з імі брадзіў уздоўж вузкіх старадаўніх вулічак, з іх сапраўднымі скарбамі старога будаўніцтва і мастацтва — славянскага, грэчаскага, турэцкага. Цывілізацыя сабрала тут бясцэнныя тварэнні мінулых эпох, якія бураю правальваліся праз Балканы. Добра зараз прыпамінаю сабе прыгожыя, шырокія, сучасныя вуліцы новай часткі горада Скоп'е. Забудаваныя лёгкімі вышыннымі будынкамі — з'яўляліся гэтыя вуліцы сімвалам новай сацыялістычнай эпохі двухстотысячнай сталіцы Македоніі.

Сёння не хочацца верыць, што ні гэтае старое, сярэдневяковае, ні новае багатае колерамі Скоп'е больш ужо не існуе. Хапіла тут толькі аднаго некалькісекунднага ўздрыгу, каб з геаграфічнай карты знікнуў горад, а багаты творчы набытак шматлікіх людскіх пакаленняў прапаў бясследна. Уласна кажучы, гісторыя ведае многія гарады, якія сёння ўжо не існуюць: Садома, Гамора, Мемфіс і Фівы таксама памерлі, аднак інакш яны ўміралі, у пэўным сэнсе па людской волі. А Скоп'е, якое ведаю, памерла на перакор людскім жаданням і намаганням. У гэтым заключаецца яго трагедыя.

Яшчэ большай трагедыяй з'яўляецца нечаканая смерць 1500 асоб і раны многіх тысяч людзей. Не ведаю колькі загінула там чалавек сярод маіх знаёмых у гэтую трагічную раніцу 26 ліпеня. Аднак калі нават забітымі з'яўляюцца выключна людзі, якіх ніколі не бачыў, дык і так іх трагедыю сёння аплакваю. Сёння мы разам з цэлым югаслаўскім народам перажываем гэтую трагедыю. У гэтыя дні думкі ўсіх людзей знаходзяцца ў Скоп'е. Мы самі сэрцамі знаходзімся разам з югаслаўскімі лекарамі і іх калегамі з розных краін, якія ўсё робяць, каб выратаваць магчыма найбольшую колькасць параненых. Мы з тымі, якія пры помачы чуллівых апаратаў вылаўліваюць з-пад развалін біццё людскіх сэрц.

Так, Скоп'е сталася сімвалам гуманізму, салідарнасці цэлага свету. Мяркую, што пасрэдна Скоп'е з'яўляецца прыкладам прыродных, уласцівых кожнаму чалавеку добрых пачуццяў, яго нянавісці да ўсяго злога, да тых сіл, якія маглі б, напрыклад, выклікаць вайну.

З Савецкага Саюза, Злучаных Штатаў, Кітая, Англіі, Польшчы і дзесяткаў другіх краін прыбывае зараз да ацалеўшых жыхароў Скоп'е бескарысная дапамога. А як прымае яе Югаславія? Я заглянуў да некалькіх нумароў белградскіх газет. «Борба» і «Палітыка» адзначаюць усебаковую польскую дапамогу для ахвяр землетрасення ў Скоп'е. Мы даведаліся з іх, што людзі з Польшчы асабіста і калектыўна запрапанавалі ўзяць удзел у адбудове горада. «Борба», напрыклад, прыгадвае 13 інжынераў і тэхнікаў аднаго Варшаўскага праектнага бюро, якія ахвяравалі дапамогу ў праектаванні новых кварталаў у Скоп'е, а нават удзел на працягу цэлага месяца ў неабходных у такім выпадку працах. Гэтая самая газета называе па прозвішчу многіх жыхароў гарадоў, якія прапануюць сваю ў розных формах дапамогу знішчанаму гораду.

Вельмі павольна Скоп'е вяртаецца да жыцця. З'явілася ўжо святло, ёсць вада, аднак 220 тысяч асоб не мае дзе жыць. Палатак і баракаў хапае пакуль што толькі для 52 тысяч людзей. Пажылых і дзяцей вывозяць у іншыя гарады. Фабрыкі, якія менш пацярпелі, не могуць распачаць працы, таму што не хапае многіх спецыялістаў і рабочых.

Тыя, якія ацалелі, вераць у салідарную дапамогу цэлага свету. У Белградзе пастаноўлена адбудаваць сталіцу Македоніі ў гэтым жа самым месцы. Зразумела, не будзе ўжо тое самае Скоп'е са стройнымі вежамі мінарэтаў, з вузкімі бізантыйскімі закавулкамі, з музеямі, ахоўваючымі скарбы з пачаткаў нашай эры. Не будзе тое ж Скоп'е, якое памятаю і якое мне захапіла. Аднак новае Скоп'е акажацца прыгожым таксама горадам, якога будуць любіць яго жыхары. Такія пажаданні шлюць сёння ў Югаславію ўсе людзі ў свеце.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## 20 ГОД ТАМУ Ў БЕЛАСТОКУ

# ЗАГІНУЛІ Ў НЯРОЎНЫМ БАІ

Пачалося ўжо першага дня акупацыі Беластока. Дастаткова моцна падбадзёрыўшыся здабычнай гарэлкай, салдаты, насіўшыя на спражках лозунг «Бог з намі», рухнулі на яўрэйскі квартал «Шульгойф». Цэнтрам гэтай атакі была вялікая яўрэйская сінагога, якая знаходзілася на месцы сённяшняга «Дома друку». У тоў дзень—у чорную, крывавую пятніцу 27 чэрвеня 1941 года — загінула каля 2 тысяч яўрэяў. Большасць з іх жывым згарэла ў вялікай сінагозе.

Тыдзень пасля, у чацвер, 3 ліпеня 1943 года наступны пагром. Каля 300 яўрэяў, пераважна інтэлігентаў, гітлераўцы прыводзяць на расстрэл. У суботу 11 ліпеня паўтараецца вялікая аблава. Злапаных гітлераўцы вывозяць у прыгарадскі лясок на Пятрашах і там расстрэльваюць. У братніх магілах знаходзіць смерць каля 4 тысяч нявінных людзей.

Крыві пакуль што гітлераўцам хопіць. Цяпер хочуць золата, серабра і савецкіх рублёў. Накладаюць на Беластоцкіх яўрэяў кантрыбуцыю: 5 кілаграмаў золата і 20 кілаграмаў серабра ды шмат тысяч савецкіх рублёў.

Яўрэяў фашысты не лічылі людзьмі. Такое было іхняе, гітлераўскае права. Аўтарам гэтага права быў сённяшні першы сябар канцлера Конрада Адэнаўэра, Ганс Глёбке.

За агарожай Беластоцкага гета, якое гітлераўцы замкнулі першага жніўня 1941 года, знайшлося каля 60 тысяч яўрэяў. Іх прызначэннем была смерць.

1 мая 1942 года ў гета паяўляюцца першыя лістоўкі з заклікам да актыўнай барацьбы супраць акупанта. Яўрэйскія арганізацыі збіраюць зброю. Прыходзіцца гэта вельмі цяжка. Зброю дабываць трэба за межамі гета. Прыбывае яе мала. Тады інжынер Генох Фарбер у сябе пад падвалам арганізуе падпольную прадукцыю гранатаў і запаляючых бутэляк.

Няма аднак адзінага кіраўніцтва яўрэйскага руху супраціўлення. Кожная арганізацыя дзейнічае на сваю руку. Толькі камуністы агітуюць за адзіны антыфашысцкі фронт. Але сярод іх таксама няма згоды, якую прыняць тактыку барацьбы: ці ўцякаць у лес, у партызаны, ці змагацца на месцы? Спрэчкі прадаўжаюцца.

Тым часам раніцаю у пятніцу, 5 лютага 1943 года, эсэсаўцы патрабуюць 6 тысяч ахвяр. І тут выявілася слабасць яўрэйскай самаабароны. Здарыліся толькі адзіночныя поўныя адчаяння выпадкі супраціўлення. Пры вуліцы Купецкай (цяпер вуліца Іцхока Мальмеда), напрыклад, рабочы Іцхок Мальмед аблівае едкім квасам групу эсэсаўцаў, у выніку чаго адзін з іх пацярпеў смерць, а другі быў цяжка паранены. Іцхока Мальмеда гітлераўцы павесілі. 5 лютага забілі яны на месцы 2 тысячы яўрэяў, а 13 тысяч вывезлі ў лагеры смерці. Быў гэта трагічны сігнал да больш актыўнай барацьбы. 1 мая 1943 года Беластоцкія яўрэі праводзяць у гета ўсеагульную забастоўку, якая была несумненна вялікай маніфестацыяй волі змагання за сваё жыццё. Пад націскам мас, перш за ўсё баявой моладзі, урэшце ўсе падпольныя арганізацыі яднаюцца ў адзіны Антыфашысцкі баявы блок. Кіруюць ім камуніст Данель Мошкавіч і прадстаўнік Гехлюцу Мордхай Тэненбаўм. Еднасць дзеяння прышла аднак позна.

Ноччу з 15 на 16 жніўня 1943 года злучаныя сілы эсэсаўцаў і нямецкіх салдат пры дапамозе ўкраінскіх і беларускіх фашыстаў акружылі гета. Ніхто гэтага не спадзяваўся. Часу на падрыхтоўку засталося мала. Штаб яўрэйскай самаабароны выдаў адозву да субрацццяў, заклікаючы іх да барацьбы за сваё жыццё і аб'явіў баявую трывогу сваім дружынам. У 6 гадзін раніцы нямецкія аб'явы прыказвалі ўсім яўрэям сабрацца ў раёне сённяшняго аўтобуснага вакзала. Яны паслухалі, хаця члены баявых дружын іх ад гэтага адмаўлялі. Такім чынам заламаўся план штаба самаабароны, які прадбачваў супраціўленне з раней падрыхтаваных бункраў, раскінутых па ўсёй тэрыторыі гета.

Штаб вырашыў свае баявыя дружыны перакінуць у раён групіроўкі яўрэяў. Бой распачаўся ў 10 гадзін раніцы. Сігналам распачацця бою было полымя падпаленых яўрэямі стогаў сена і фабрык. Яўрэйскія дружыны першымі паднялі атаку на агарожу гета. Хацелі яе прарваць, каб выпусціць людзей і самым уцячы ў лес. Іншыя дружыны разбілі нямецкія патрулі, якія знаходзіліся на вуліцах гета. Бой на смерць і жыццё праходзіць аднačасова ў некалькіх пунктах Беластоцкага гета. Доўга ўтрымоўваюцца яўрэйскія дружыны ў раёне вуліцы Навагрудскай. Яны адбіваюць дзесяць раз колькасна перавышаючыя і яшчэ больш дасканала ўзброеныя фашысцкія атрады. Гітлераўцы для падаўлення збройнага супраціўлення яўрэяў пускаюць артылерыю, самалёты і танкі. Адзін танк яўрэйскія дружыннікі знішчылі гранатамі. Стаяць яны цвёрда. Ніхто не просіць літасці, хаця кругом поўна трупаў. Не малыя затраты і ў немцаў. Гэта змушае іх пасля трохгадзіннага бою спыніць страляніну. Пасля кароткага перапынку бой завязаўся зноў і прадаўжаўся да позніх гадзін ночы. Дружыннікі яшчэ раз дарэмна спрабавалі прабіць нямецкі кардон, і выйсці з гета. Быў гэта бой няроўны. Хутка не хапіла амуніцыі. Аднак штораз завязвалася страляніна ў розных пунктах гета. Праз дзесяць дзён утрымоўваліся бункеры дружыннікаў на вуліцах Цёплай і Навагрудскай. Блакада Беластоцкага гета прадаўжалася да 15 верасня. Нямногім толькі яўрэям удалося ўцячы і прылучыцца да партызанаў. Тыя, якім не ўдалося вырвацца з фашысцкіх кіпцюроў, згінулі ў баі — са зброяй у руках.

**В. РУДЧЫК**




Прыбыўшы ў Карлслуст, жэф Упіца генерал-маёр Зэп Зэйферт адмовіўся ад гасцініцы, хоць для яго быў падрыхтаваны камфартабельны нумар. Аўтамабіль генерала праехаў горад і накіраваўся да размешчанага непадалёк лясістага ўзгорка, вяршыню якога маляўніча каранавалі сцены і вежы старыннага замка. Уласнік замка, берлінскі камерсант, быў прыяцелем Зэйферта, і даў замак у яго поўнае распараджэнне.

Прыезд знатнага эсэсаўскага генерала не прайшоў непрыкмечаным для савецкай разведкі.

Трое савецкіх разведчыкаў, закінутых у глыбокі тыл праціўніка яшчэ ў канцы першага года вайны, базавалі ў шматлікіх раёнах Германіі, пакуль не атрымалі загад пераехаць у Карлслуст.

Першая прыбыла Тамара Штырава. Абяспечаная дакументамі ўдавы загінуўшага афіцэра, яна купі-

212

ла домік і ўладзілася працаваць у мясцовай фатаграфіі рэтушэрам.

Алег Люлько у Гамбургу, працаваў тэхнікам у тэлефоннай кампаніі. Тая мела філіялы ў шматлікіх гарадах і перавод у Карлслуст уладзіў даволі хутка.

Найцяжэй давялося Паўлу Перцаву, пункт базавання якога быў у Котбусе, дзе разведчык меў невялікі антыкварны магазін. Перцаву давялося знайсці прычыну для таго, каб з'ездзіць за таварам у Карлслуст, «пазнаёміцца» там са Штыравай і «жаніцца» на ёй. Пасля таго як антыквар Франц Готбах і рэтушэр Стэфанія Шнайдэр узялі шлюб, Готбах-Перцаў ужо паўнапраўна перабраўся ў Карлслуст. Нешматлікія асобы, якія прысутнічалі на цырамоніі шлюбу, былі інфармаваны аб тым, што ў Котбусе справы антыквараў ідуць дрэнна — пад бокам Берлін, які адбівае пакупнікаў. Тут, у Карлслусце, які ўдвая большы за Котбус аматараў да старыннай бронзы і фарфару, зразумела, куды больш.

Новых жыхароў Карлслуста дакладна праверылі. Але ўсё аказалася ў парадку, і неўзабаве Перцавым і Люлько перасталі цікавіцца.

Група ўжо некалькі месяцаў шукала карлслуцкі тайнік. Цяпер яна атрымала загад дакладна сачыць за генералам Зэйфертам, прыезд якога мог быць звязаны з архівамі, але нічога не пачынаць, а чакаць прыбыцця Керымава.

Аскер прыехаў у Карлслуст у аўторак. Даспявалі важныя падзеі. Капітан Люлько, які служыў на

213

тэлефоннай станцыі, перахапіў гутарку Зэйферта з Упіцам. Той таксама выязджаў у Карлслуст. Сустрэча высокапастаўленых эсэсаўцаў, якая назначалася на паслязаўтра, магла шмат высветліць.

Разведчыкі прасядзелі вечар і ўвесь наступны дзень, абдумваючы план дзеяння.

* * *

У чацвер раніцай генерал Зэйферт зняў у кабінеце трубку тэлефона і выявіў, што апарат не працуе. Не дзейнічаў і другі тэлефон, які быў непасрэдна звязаны з міжгароднай станцыяй.

Неўзабаве маёр Перцаў, які хаваўся ў карчах, убачыў, як з варот замка выскачыў аўтамабіль. Машына паімчалася ў горад. Перцаў, які гадзіну назад зазямліў тэлефонныя правады, якія цягнуліся з замка, меў усе падставы думаць, што машына накіравалася на тэлефонную станцыю за манцёрам. А там на дзяжурстве быў тэхнік Готфрыд Вільгаўз, гэта значыць капітан Люлько...

Неўзабаве аўтамабіль даставіў у замок прадстаўніка тэлефоннай станцыі. Гэта быў сам дзяжурны тэхнік.

Ён праверыў праводку на сцяне кабінета, разабраў апараты і з паўгадзіны вазіўся ў іх. Сувязь запрацавала.

Аднак тэхнік не быў здаволены. Ён вытлумачыў, што апараты старыя і ненадзейныя. Вечарам ён прыедзе зноў і заменіць іх.

Тэхнік пайшоў.

Ад'ютант паведаміў:

— Групенфюрэр Гайнц Упіц прыбыў.

214



Не ўсім пашанцавала прывесці на сваё поле трактар, яны вымушаны карыстацца коннымі машынамі...

# СА ЖНІЎНЫХ ПАДАРОЖЖАЎ РЭПАРЦЁРА

(Працяг са стар. 1)

нідзе жанчыны жнуць збажыну сярпом. Сярпом — не таму, што інакш не ўмеюць, ці не хочуць, але таму, што трэба забяспечыцца на зіму роўнай, простай саломай. Грэдэлі ж славутыя не толькі на Бельшчыне але і ва ўсёй краіне з вырабу каштоўных, прыгожых саламянак.

Нас, перад усім, цікавіць трактар. «Трактарам араць, шылам хлеб есці», — прыпомнілася мне аднекуль старое прыслоўе. Ці і цяпер ёсць яшчэ сяляне, якія так думаюць? З пытаннем гэтым звярнуўся я да членаў сельскагаспадарчага гуртка ў Грэдэлях. А яны адказалі мне:

— Сяляне нашыя доўгі час гаварылі, што там, дзе пройдзе трактар, зямля радзіць не будзе. І мелі аргумент да такіх сцвярджэнняў (?!). У 1940 годзе ў суседняй вёсцы Грыгароўцы неспрактыкаваны трактарыст зараў шмат поля, зараў аднак надта глыбока, выараўшы на паверхню неўраджайныя слоі зямлі. У гэтым месцы сапраўды праз некалькі гадоў нічога не радзіла. І сяляне доўга аб гэтым памяталі. Цяпер аднак — гэта ўжо гісторыя. Усё залежыць ад кадры, якая абслугоўвае машыны. Калі ў мінулым годзе пачаў працаваць наш трактарыст, многа рэчаў яму не ўдавалася, выходзіла не так як трэба, зараз аднак відаць штораз лепшую працу.

Зараз Грэдэлёўскі трактар на недахоп кліентаў не наракае. Наадварот: ахвотных скарыстаць з «механічнага каня» ёсць значна больш, чым сіл у гэтага ж каня. Тыя, да каго не паспее дайсці чарга, жнуць коннымі машынамі, або косяць косамі, паглядаючы з зайздрасцю і з надзеяю на спраўную, хуткую працу снапавязалкі. З надзеяю, бо яшчэ восенню гэтага года члены сельскагаспадарчага гуртка ў Грэдэлях намераны купіць другі трактар са снапавязалкай.

Наогул назіраецца ў гэтым годзе вялікі поступ у механізацыі жніўных прац. Найбольш бачыцца ў полі машын сельскагаспадарчых гурткоў. Там аднак, дзе іх не хапае, працуюць машыны пасобных гаспадароў і розных суседскіх ці сваяцкіх суполак.

### НАПРЫКЛАД У ДЗЕРНЯКОВЕ

Солтыс вёскі Дзернякова з'яўляецца ўласнікам сваe касілкі. Ад світання да ночы косіць сваё і сваіх аднавяскоўцаў збожжа.

— Напішыце, — гаворыць ён, — што польскія касілкі найлепшыя. Нямецкія і чэхаславацкія значна горшыя. Толькі вось некалькі дэталяў трэба самому дарабіць. Хадзіце, я вам пакажу. — І паказвае дароблены драцяны каблук (каб збожжа не бронталася), сваёй работы полуз (бо фабрычны пасля аднаго дня — зусім сцёрты) і нейкі ланцужок, без якога, як гаворыць... не можна працаваць. «А затым, дадае яшчэ раз солтыс, напішыце, што нашы касілкі вельмі добрыя».

Пішу і адначасова здзіўляюся, што канструктарам не прышло ў галаву адразу дарабіць гэтых простых дэталяў.

Ул. ПАЎЛЮЧУК

...або рэзаць збожжа касою

# КВАЛІФІКАВАНЫЯ КАДРЫ ПАТРЭБНЫЯ

(Працяг са стар. 1)

3. ПАТРЭБЫ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА Ў АБ'ЁМЕ КВАЛІФІКАВАНЫХ РАБОЧЫХ.

У бягучай пяцігодцы адзначаем вышэйшы тэмп узросту запатрабавання на кваліфікаваных рабочых ад тэмпа прадугледжваемага ўзросту прыняцця да працы. Такія прапорцыі трэба трактаваць як вынік механізацыі прадукцыі, агульна беручы тэхнізацыю прадукцыі, заавансаванага тэхнічнага і тэхналагічналага прагрэсу ў сферы дзейнасці, у транспарце, а таксама ў будаўніцтве. Узрост кваліфікацыі — гэта сур'ёзная крыніца ўзросту грамадскай прадукцыйнасці працы. Вялікія недахопы кваліфікаваных рабочых адчуваецца зараз у групе будаўлянай прафесіі, а асабліва ў наступных спецыяльнасцях: бетоншчыка, арматуршчыка, цесляра, маляра і іншых. Недахопы і асаблівыя патрэбы ў аб'ёме кваліфікаваных рабочых выступаюць зараз у спецыяльнасцях, якія адносім да групы прафесій электраэнергетычнай, харчавой і іншых.

Хаця ўдзел кваліфікаваных рабочых у прыняцці да працы сістэматычна ўзрастае ў пасобных галінах народнай гаспадаркі, то аднак асаблівыя патрэбы Беласточчыны прымушаюць да пастулавання паскоранага перакваліфікавання рабочых у межах існуючай падрыхтоўчай сістэмы.

4. ПАТРЭБЫ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА Ў АБ'ЁМЕ КВАЛІФІКАВАНЫХ КАДРАЎ З СЯРЭДНЯЙ ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫЯЙ.

Прыняццё да працы кадраў з сярэдняй прафесіянальнай адукацыяй узрасце ў гаспадарцы ваяводства ў адносінах да стану 1960 года звыш 55%. Параўнальна вялікае запатрабаванне на кваліфікаваныя кадры з сярэдняй адукацыяй адзначаем у групе прафесій: зямельнай, тэхнічнай, эканамічнай і службы здароўя. Недахоп гэтых кадраў у адносінах да агульнага запатрабавання выносіць арыентацыйна каля 3 000 асоб. З пункту гледжання бягучых патрэб сур'ёзны недахоп выступае напр. у спецыяльнасці «тэхнік электрык», «тэхнік у аб'ёме сувязі» і шмат іншых. Сур'ёзны недахоп спецыялістаў адчуваем у групе сельскагаспадарчых прафесій, а асабліва спецыялістаў у аб'ёме меліярацыі, механізацыі сельскай гаспадаркі, ветэрынарыі і рахункаводства. Гаспадарчае развіццё Беластоцкага ваяводства абгрунтоўвае неабходнасць звярнуць асаблівую ўвагу на большы, чым да гэтай пары, прырост кваліфікаваных кадраў з сярэдняй адукацыяй. Рашыць гэтую скамплікаваную праблему абазначае ў практыцы абавязкова развіваць у далейшым прафесіянальную адукацыю. Напрамкі развіцця прафесіянальнай адукацыі павінны адказваць намерам напрамкаў структуральных змен у эканоміцы ваяводства.

5. ЗАПАТРАБАВАННЕ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА Ў АБ'ЁМЕ КВАЛІФІКАВАНЫХ КАДРАЎ З ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫЯЙ.

У структуры працы выступаюць выразныя дыспрапорцыі паміж тэмпам прыросту кадраў з вышэйшай адукацыяй, а сярэдняй кваліфікаванай кадрай. Патрэбы Беласточчыны ў аб'ёме высокакваліфікаваных кадраў у дзвюх галоўных галінах гаспадаркі можна ілюстраваць наступнымі данымі.

Паводле статыстычных даных Галоўнай статыстычнай установы ад 1958 года (актуальных даных няма), прамысловасць у ваяводстве трымала да працы 8.2 асобы (вынік статыстычнага падліку) з вышэйшай адукацыяй на 1000 працуючых. Аналагічны паказальнік для краіны выносіць 17,2 асобы. У будаўніцтве працавала ў сярэднім 16,4 асобы з вышэйшай адукацыяй на 1000 працаўнікоў і рабочых. Аналагічны паказальнік для краіны выносіць 38,7 асоб. Міма нязначнага палепшання ў апошнія гады трэба прыняць, што гэтая дыспрапорцыя ў адносінах да агульнакраёвай сітуацыі не зменшылася.

У далейшым наглядаецца вельмі нязначны наплыў кваліфікаваных кадраў на тэрыторыю нашага ваяводства. Выступаючыя недахопы і наглядаемыя дыспрапорцыі робяцца ўсё больш і больш трывожнымі ў святле закладаемай праграмы гаспадарчага развіцця ваяводства, поспехі якога залежаць у пэўнай ступені ад набору высокакваліфікаванай кадры. Каб выраўняць існуючую зараз розніцу і забяспечыць неабходныя ўмовы асягнення гаспадарчага ўзроўню прыймаецца, што лік працаўнікоў з вышэйшай адукацыяй, які прыпадае на тысячу працуючых, павінен узрасці да 1980 года чатырохкратна. Не маючы больш дакладных дадзеных можна прыняць, што вышэй прыведзены паказальнік узросту ў адносінах да прамысловасці акрэслівае запатрабаванні кадраў з вышэйшай адукацыяй да 1980 г. на каля 4 500 чалавек.

Аналагічны падлік для будаўніцтва вядзе да ліку каля 2 200 чалавек з вышэйшай адукацыяй патрэбных для гэтага тыпу галіны гаспадаркі. Галіновая структура прамысловасці ў перспектывічным перыядзе дазваляе сцвярджаць, што пераважаючая большасць акрэсленага запатрабавання ахопіць прафесію механіка і электрыка (тэхналагічныя патрэбы шматлікіх прадпрыемстваў, патрэбы паслугі, прафесіянальныя школы).

Запатрабаванне на будаўляных інжынераў ахоплівае не толькі кадру будаўляных прадпрыемстваў, але таксама і праектавыя бюро, інвестыцыйную службу і прафесіянальныя школ...

(Працяг на стар. 7

# ЗГАРЭЎ ЧАЛАВЕК

Антон Харытанюк быў чалавек спакойны. На працягу свайго жыцця з нікім ён не судзіўся, нікога не скрыўдзіў. Толькі з уласнай жонкай нейк на старасць пачаў не ладзіцца. За што ў іх пайшло — цяжка цяпер выявіць. Некаторыя кажуць, што неабыякавымі ў гэтым былі справы веравызнання. Антон быў праваслаўны, а жонка каталічка. Нягледзячы на ўзрослыя ўжо дзеці, супругі часта сварыліся. Сямейныя непрыемнасці ўсё больш прыцягвалі Антона да кілішка. А гэта яшчэ выразней парушыла сямейнае сужыццё Антон не даядаў, хадзіў запушчаны, брудны. У Мілейчыцах мала хто звяртаў на гэта ўвагу. Ці ж мала тут хто п'е і з жонкай не ладзіць? Нармальная справа. Ніхто да гэтага не прыкладаў ніякай увагі і ў кафлярні, дзе працаваў Антон стаoражам.

Антон быў чалавек не скупы. Выпіўшы кілішак, не лічыўся з грашыма. А жонка па яго, як іншыя жанчыны, не прыходзіла да кафлярні ў дзень зарплаты. Такі чалавек мае заўсёды многа сяброў. Абы грошы. У Мілейчыцкай кафлярні спецыяльнай аказіі да выпіўкі не трэба шукаць. П'юць тут нават у час працы, пад бокам кіраўніка. Ніхто за гэта не карае. Тым больш, што і сам кіраўнік, Анатоль Касцюк, ад губ не адкідае.

* * *

Раніцай 10 сакавіка, у нядзелю, Антон Харытанюк, як і заўсёды, збіраўся на працу. Надзеў вартаўнічую вопратку, на плечы накінуў фуфайку. Спяшаць яму не было чаго. Працу ад стоража Рышчука меў прыняць у 16 гадзін. Але што рабіць у хаце? З жонкай ужо даўжэйшы час не гаварыў. Нават не сталаваўся ў хаце. Пайшоў у кафлярню. Нягледзячы на святочны дзень тут ужо была сабрана адпаведная кампанія. Кантора кафлярні ў нядзелю свабодная. Сталы шырокія. На іх хоць танцуй. А гаспода, дзе прадаецца гарэлка, таксама не далёка. На суседняй вуліцы.

За сталом канторы сядзелі пры недапітай літроўцы сторож Рышчук (у гэты ж час ён трымаў службу), фурман Васіль Хвасевіч і формер Эдуард Клапатоўскі. Запрасілі і Антона Харытанюка. Не адмаўляўся. А калі з гасподы прынёс папаўненне, пастанавілі пакліkаць і кіраўніка кафлярні. Лібацыя працягнулася доўга за поўдзень. Непрытомнага стоража Рышчука адвезлі ў Рагачы санкамі. Фабрычны конь ужо прызвычаіўся да такіх рэйсаў. Сам ведаў, куды трэба ехаць. Апошнія таксама папаўзлі ад стала. А Харытанюк прыняў службу. Многа ён не піў. Чалавек стары. Тры, чатыры кілішкі для яго хапала. Харытанюк увайшоў да цёплага памяшкання, дзе выраблялiся кафлі і, як заўсёды, прылёг на стале пад акном. Алкаголь цеплынёю расплыўся па жылах. У галаве шумела. Задрамаў моцным сном алкаголіка.

* * *

Хатка Станіслава Клімчака стаіць пры самай кафлярні. Глянеш праз акно на панадворак кафлярні, і ўсё відаць, як на далоні. Станіслаў з жонкай абедалі. Раптам жонка, якая сёрбала суп, папярхнулася і расшыранымі ад страху вачыма ўтаропілася ў акно. Станіслаў глянуў і прыўстаў ад нечаканасці. З панадворка кафлярні ў бок іх хаты каціўся клубок агню.

— Божа! Дык гэта ж чалавек! Гарыць! — ускрыкнула жонка.

Станіслаў, схапіўшы ў рукі вядро з вадой, як апантаны выскачыў з хаты. Пачалі гасіць. У полымях агню звіваўся ад страшнага болю чалавек. Гэта быў Антон Харытанюк.

Паведамілі хуткую дапамогу. Харытанюка адвезлі ў Сямяціцкую бальніцу. Калі на другі дзень паехалі там дзеці, яшчэ быў пры памяці. Расказаў ім, з кім і як выпіваў. Як пасля прылёг на стале кафлярні і калі прачнуўся, быў цэлы ў агні. Што сталася — не ведае.

Надзеі на ўратаванне жыцця Харытанюка не было амаль ніякай. У яго абгарэлі грудзі, страўнік,

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ЗНОЎ БУДЗЕ ЛУГ

Быў луг, але ўжо няма. З'еў яго агонь, або проста знішчыла драпежніцкая гаспадарка. Так ужо ёсць — пад збожжа патрэбнае ўгнаенне, кукуруза без яго не ўдасца, цукровыя буракі, тытунь, лён і ўсё, усё патрэбуе ўгнаення. Некаторыя лічаць, што луг і так будзе даваць ураджай праз шмат год.

Часта гаспадар стаіць перад праблемай: як залажыць луг, які знішчыў агонь, або які «змарнеў» да той ступені, што ўжо амаль папар. Апошнім часам — у сувязі з доўгатрывалай пасухаю — выбухаюць на тарфяных лугах пажары. Праз некалькі дзён праводзілася акцыя пажарных каманд, арміі і насельніцтва на лугавым аб'екце Крамкоўкі, пав. Моньк. Без адпачынку працавала 12 стражацкіх мотапомп. Агонь заняў 20 га, а цэлы аб'ект лічыць 500 га. Падобныя пажары выбухнулі ва Угове і Оссе, а таксама ў іншых мясцовасцях.

Што рабіць, калі агонь знішчыць нам луг? Проста трэба засеяць яго нанава. Заданне маем трохі лягчэйшае, бо агонь нішчыць дзярніну, карэнне, парасткі непажаданых раслін, насенне пустазелля. Маем таксама шмат попелу, які спаўняе ролю ўгнаення.

Глебу трэба заараць з мэтай вымяшання зямлі з попелам. У некаторых выпадках хопіць культыватара. Каб мець добры луг, трэба прымяніць вельмі вялікае ўгнаенне. Пад культыватар або барану даем 300 кг 40% каліевай солі, а таксама 200—300 кг суперфасвату (на гектар). Прымяненне арганічнага ўгнаення не з'яўляецца абавязковым, хіба што пажар працягваўся даўжэйшы час і знішчыў слой торфу на значнай глыбіні. Пажары лугоў на тарфяніках прадаўжаюцца часта некалькі месяцаў. Можна ліквідаваць іх толькі з надыходам асенніх халадоў і дажджоў.

На падрыхтаваным месцы можам сеяць мяшанку траў. Спецыялісты прапануюць склад наступных кампанентаў: лугавая аўсяніца — 11 кг, тымотка — 4 кг, купкувка і балаціцкая вяхліна — па 3 кг, а таксама ў меншых колькасцях вычынец, мятліца, лугавая вяхліна, шведская канюшына і каманіца.

Да нядаўна рэкамендавалася высяваць шырокі камплект насенняў траў. Выходзячы з прадпасылкі, што сама прырода зробіць селекцыю, што тыя гатункі, якія знойдуць найлепшыя ўмовы, будуць развівацца вельмі добра, а іншыя загінуць. Аказваецца аднак, што надта шырокі веер насення не з'яўляецца жаданым з увагі на поўную канкурэнцыю паміж паасобнымі гатункамі, якая даводзіць да таго, што гінуць часта найбольш вартасныя травы. Камплект мяшанак трэба дабіраць адпаведна да глебы, вільготнасці, нахілу, спосабу карыстання і г. д.

Часта адбываюцца дыскусіі: ці луг, які дае нізкія ўраджаі, трэба падсеяць, ці проста заараць і нанава пасеяць. Пераважна прымяняецца другую канцэпцыю. Гэта добра, але пры ўмове, што ўсе простыя працэдуры заводзяць і заараннe абавязкова патрэбнае. У іншым выпадку трэба прымяніць угнойванне арганічнае і мінеральнае, адпаведнае догляданне зялёных угоддзяў. Лугі на Беласточчыне найчасцей з'яўляюцца мала ўраджайнымі з прычыны недахопу ўгнаення.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

# У НЯВОЛІ ЗЯМЛІ

(Працяг са стар. 1)

ме. Яна бяздзетная, хаця ёй ужо 54 гады. Наймалодшая дачка, Вацлава, выйшла замуж за Лушчыка з вёскі Сачкоўцы. Гэта 8 км адсюль. У іх, паночку, 8-мігектаровая гаспадарка.

**Бабулька Марыя Альферовіч цэлымі днямі сядзіць перад сваёй хаткай і перажоўвае сліну. Сліну? А што мае перажоўваць, калі ў яе ні кавалачка хлеба, ні фунта мукі, ні круп, ні зярнят?**

— Пакуль магла, паночку, трымала кароўку, свіні, куры. Аплачвала падаткі. Цяпер не магу. Сіл няма. Старая я ўжо. 3 гады таму прапала апошняя мая кароўка. Толькі людзі літасцівыя, асабліва суседзі, не забываюць пра мяне няшчасную. Кусок хлеба, кубак малака, а то і што другое прынясуць, злітуюцца. Дай Бог ім здароўе...

Людзі, суседзі? Чаму не сын, не дочкі?

Эдуард Альферовіч глядзіць на мяне тупымі вачыма. Твар яго — маска без ніякіх чалавечых пачуццяў.

— Старая сама вінавата!

**Маці, родная маці, яму толькі старая! Што ж, бывае і так...** Слухаю далей:

— Яна не можа пагадзіцца з маёй жонкай. Што жонка не зробіць. усё ёй не падабаецца, усё на так.

— Але матчынай гаспадаркай вы ж карыстаецеся?

— Дзе ж там! Раней араў, сеяў. Цяпер ляжыць аблогам. Толькі каровы там пасу. **Старая не хоча мне яе запісаць.**

— Не, не запішу яму! — у словах бабулькі станоўчая рашучасць. — Ён мне не сын, горш чужога. Маёй зямлёй карыстаецца, на маім полі каровы пасе, але, нябось, ніколі ні кубачак малака, ні кавалачак сыра не прынясе. **А то ж мы на адным панадворку.** І б'е мяне, нягоднік! Б'е за абы што. А найчасцей за тое, што яшчэ жыву, што не ўміраю. Чаго ты, старая, кажа, тарчыш, зямлю пара грызці! А ці я, пане, вінавата, што жыву?! Хацела б умерці, але смерць не прыходзіць. Адзін раз (здарылася гэта ў суседавай клуні) збіў мяне так, што казаць не магла. Каб суседзі не адбаранілі, быў бы прыкончыў, нягоднік!

Міліцыя накіравала справу пракурору. Эдуарду засмярдзела турма. Паў перад маткай на калені, прасіў, кляўся, што не ён, ні яго жонка ўжо больш не падымуць на бабульку рукі. Матчына сэрца расплылося ў жалю. Даравала сыну ды яшчэ на судзе прасіла, маліла суддзю, каб і ён дараваў яе **добраму сыночку. Потым бабулька два тыдні спакойна пажыла пад сыноўскім дахам, на сыноўскай страве. Два тыдні, і зноў пачула даўнейшую спеўку:**

— Вон, старая, з хаты!

Ішла бабуля пад сваю хатку і далей перажоўвала сліну. А калі не хапала нават сліны...

— Вы, пане, хіба не ведаеце, як цяжка галоднаму? Аднойчы пайшла я да сынавага копца і ўзяла дзесятак пару бульбы. Не прасіла, праўда, бо і так сын не даў бы. Узяла сама. Нявестка пабегла за мною аж у хатку, адабрала бульбу, ды яшчэ кулакамі насовала.

— Ці можна паглядзець вашу хатку?

— А чаму ж не. Ідзіце, пане, глядзіце.

Не, гэта не жыллё для чалавека! Пасярэдзіне гэтай кучкі, гліняная жоўтая печка. Ля печкі нейкі бярлог. Вось тут спіць бабуля. Побач на падлозе купачка саломы, а ў ім курынае гняздо.

— Гадую яшчэ тры курачкі, — спешна пяясняе бабуля.

Сцены абітыя разарванымі картоннымі апакоўкамі. Пад іконай асмаленая газавая капцілка, без шкла. Дзівачнай насмешкай гудзяць над гэтай хаткай драты электрычных правадоў. У бабулінай хатцы няма электрычнасці. Дах дзіравы.

— Цяпер сонца, можна пагрэцца, пасядзець на дварэ. Але, бачыце, прошлае лета было інакш. Ліў безупынна дождж. Цякло да маёй хаткі. Палезла я латаць страху...

Чаму? Ці ж не мог у тым выручыць бабулю здаровы і моцны сын, або адзін ці другі зяць?

**Зямля, бабуліна зямля стала на перашкодзе.**

Не вытрымалі старыя рукі. Бабуля Марыя Альферовіч з грукатам звалілася са страхі на камні, якімі выложаны панадворак.

Сталася няшчасце. У няшчасці заўсёды чалавек памагае чалавеку. Бабуля доўга ляжала пасярэдзіне панадворка. Урэшце і голасу не стала, каб выславіць свой боль. Сын і нявестка абміналі колам няшчасную і праходзілі ў сваю хату. Дачка, што жыве ў той жа вёсцы, таксама не пацікавілася лёсам маці.

**Зямля, матчына зямля стала на перашкодзе.**

Бабульку падабраў сусед. Праляжала ў яго за печкай тыдзень часу. Здароўе не вярталася. Сусед запрог каня і адвёз бабульку да лекара. Аказалася, што падаючы са страхі, бабулька зламала ногу. Сусед дапамог ёй уладзіцца ў Сакольскай бальніцы.

Па вёсцы пайшла гутарка, што бабуля запісвае сваю зямлю суседу за дапамогу ў няшчасці. Страх усхалыхнуў сэрцам сына. **Прападзе 3 гектары зямлі!** Хутка падкруціў жонку. Наладзіла яна кошычак яек, забрала каўбасу і масла ды адправілася ў Саколку. Заплаціла нават за бальніцу. Бабульчына сэрца адтаяла ад такой клапатлівасці. Вярнулася да сына. Не надоўга. Не прайшло месяца часу, а бабуля ізноў пачула:

— Забірайся к чорту, старая, з маёй хаты!

**Чаму? Зямля стала на перашкодзе. Бабуля не хацела запісаць яе сыну. Паўтаралася гэта яшчэ некалькі разоў.**

Найгорш зімою.

— Каб не суседзі, паночку, замерзла б даўно. У аднаго месяц, у другога два, і так праходзіць найгоршы час.

Што ж на тое дачка Яўгенія?

**— Эдуард карыстаецца матчынай зямлёй. Хай ён матку глядзіць!**

— Я ёй чужы, — дабаўляе яе муж, Міхась Кеда. — У мяне самога не пераліваецца. Не маю абавязку. Каб яна на нас запісала зямлю, тады... **Ізноў зямля! Звар'яцець можна!**

Перад хаткай бабулі, Марыі Альферовіч, сабралася некалькі гаспадароў. Прыйшлі іх жонкі. Вярталіся з поля.

— Ці не знайшоўся б, — пытаю, — у вашай вёсцы нейкі гаспадар, які ў замен за зямлю дагадаваў бы да смерці бабульку?

— Чаму ж не? Але папробуй вазьмі! Сын і нявестка прыб'юць. Ужо былі такія, што прабавалі. Віламі з поля пагналі. Аднойчы я сам прывёз бабульцы з лесу крыху галля, каб мела ў чым у печы распаліць. Нявестка камянямі абкідала і мяне, і каня. Дык што, біцца будзем, у міліцыю падаваць? Навошта каму лішні клопат!

— Бабуля, а не захацелі б бы сваю зямлю здаць дзяржаве? Ёсць такая магчымасць.

— А што буду мець з гэтага?

— Штомесяц па 500 злотых, бясплатнае лячэнне і бясплатныя лякарствы.

— Ай, прыдалося б, паночку, прыдалося б! Сэрца ў мяне слабое. Дух займае. Лекар прыпісаў нейкія лекі. Але за што я іх куплю? А ці абавязкова цэлую гаспадарку здаваць дзяржаве?

— Цэлую.

Бабулька пасмутнела.

— Бачыце, у мяне ёсць кавалак вельмі ж добрага сенажаці. Далекавата адсюль. Хацела б яго аставіць. Пасля маёй смерці хай узяла б яго дачка Вацлава. Яна ж пасагу не брала.

Бадай бы чорт з гэтай зямлёю! Грымае яна бабулю Марыю Альферовіч у сваей няволі, як нейкі гад сваю ахвяру. Хто дапаможа вырваць беднай бабульцы з праклятай няволі зямлі?

Гэтае пытанне кірую перш за ўсё у адрас Аддзела здароўя і грамадскай аховы Прэзідыума ПРН у Саколцы, ды Прэзідыуму Кузніцкай ГРН.

Віктар РУДЧЫК



НА ЗДЫМКУ: вось хатка, у якой жыве бабуля Марыя Альферовіч

Фота аўтара

а на руках дык мяса падавальвалася аж да самых касцей. Харытанюка адвезлі самалётам у Беластоцкую клініку. Тут ён на другі дзень скончыўся.

Следства ў справе гэтага страшэннага выпадку праводзіла павятовая камендатура МО ў Сямяцічах. Рабілі ўсялякія эксперыменты. Высоўвалі розныя варыянты, як магло дайсці да гэтага выпадку.

— Мо' задрамаўшага Харытанюка нехта з яго п'яных сябраў абліў нафтай (у памяшканні, дзе спаў Харытанюк, стаяла вядро з нафтай патрэбнай да вырабу кафляў). Але хто і навошта?

— А мо' Харытанюк, лягаючы, закурыў папяросу і, задрамаўшы, выпусціў яе на запальную фуфайку? Магла ад папяросы затлецца фуфайка. Калі Харытанюк пачуў на грудзях агонь, мог сарвацца і, пабачыўшы вядро з нафтай (а думаючы, што гэта вада), у гарачцы люнуць сабе на грудзі.

Але сям'я Харытанюка сцвярджае, што ён падвыпіўшы ніколі не закурваў папяросы, таму што яго цягнула ад гэтага наваніты.

Як там было ў сапраўднасці, хто яго ведае. Факт застаецца фактам, што загінуў чалавек, а ў кафлярні п'юць па-ранейшаму.

На гэтую тэму гутарым з камендантам мясцовага пастарунку МО.

— Мы, — кажа камендант, — зрабілі ўсё, што да нас належала. Далейшым следствам заняліся таварышы з павета. Аб выніках нічога не ведаем. Ціха. Харытанюк быў чалавек нядрэнны. У свой час быў нават дзеячом прафсаюзаў. Але як стаў працаваць у кафлярні, пачаў піць. З жонкай таксама не ладзіў. Зрэшты, у кафлярні мала хто не п'е. Нам толькі клопат з ёю. Часта бываюць выпадкі, што жонка таго ці іншага прыходзіць на пастарунак са скаргай, што муж прапівае ў кафлярні грошы. У дзень зарплаты дык там, як правіла, неабходна інтэрвенцыя міліцыі. Кіраўнік кафлярні таксама не ў парадку. Мы яму неаднойчы звярталі ўвагу, каб не дазваляў піць на тэрыторыі кафлярні. А ён, здараецца, што і сам п'е з рабочымі. У тую нядзелю, калі здарыўся выпадак, таксама піў.

У кафлярні існуюць партыйная і прафсаюзная арганізацыі. Проста здзіўляе іх абыякавасць да апошняга страшэннага выпадку. На ніводным сходзе нават не была закранута гэтая справа. Згарэў чалавек і нікога гэта не заставіла прызадумацца над сітуацыяй і атмасферай, якая пануе ў кафлярні.

І яшчэ адна справа. Некалькі год таму назад у час акадэміі, якая адбывалася ў Мілейчыцах, выбух пажар у кафлярні. Затрат было на некалькі мільёнаў злотых. Прычын пажару не выкрыта. У 1961 годзе нехта падпаліў млын. У той час адбывалася акадэмія з выпадку гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Злачынцы не выкрыта. Сёлета ў час гэтага страшэннага выпадку ў мясцовай святліцы адбываліся элімінацыі гурткоў мастацкай самадзейнасці. Дзіўная гэта супадзенні А віноўнікаў злачынстваў няма.

В. БАРШЧЭЎСКІ

 

## ВЕСТКІ З БССР



Адзін з 50 дамоў у Беларусі. Тут жывуць ветэраны працы, якія пайшлі па старасці на заслужаны адпачынак.

* * *

### НЕДАЛЁКА АД МІНСКА

У маляўнічай мясцовасці пад Мінскам пачата будаванне самага вялікага ў Беларускай ССР медыцынскага гарадка Інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі міністэрства аховы здароўя БССР. Тут будуць два клінічныя карпусы, вялікі пансіянат для хворых, гасцініца для прыязджаючых з другіх абласцей і раёнаў рэспублікі, амбулаторных хворых. Новы медыцынскі гарадок будзе мець найноўшае абсталяванне, з'явіцца добрай базай як для лячэння хворых, так для правядзення навуковых доследаў па важнейшых праблемах анкалогіі і медыцынскай радыялогіі.

## ЗЛАЧЫНСТВА ЎДАЛОСЯ

А восьмай гадзіне раніцы 5 жніўня 1945 года на аэрадром Тыніян прызямліўся двухматорны ваенны самалёт, эскартаваны ўзмоцненай эскадрыляй знішчальнікаў. З самалёта выйшлі галоўнакамандуючы ваенна - паветранымі сіламі ЗША на Ціхім акіяне генерал Спаатс са сваімі штабнымі афіцэрамі і генерал па імені Гроўс — асобапаўнамоцных, накіраваны ў Тыніян з Лос - Аламоса (ЗША).

Начальнік базы Ральф Скот толькі каля пяці гадзін раніцы атрымаў радыёграму, у якой паведамлялася яго, што неўзабаве прыбудзе галоўнакамандуючы. Падзеі апошніх дзён давалі Скоту магчымасць меркаваць пра ўсялякія нечаканасці. Але прыбыцця высокапастаўленага генерала ВВС ён не чакаў. Скоту адразу сталася ясным, што галоўнакамандуючы прыбыў на Тыніян не для таго, каб правесці інспекцыю аэрадрома. Яго з'яўленне, несумненна, было звязанае з заданнем шасці цывільных асоб і таямнічым грузам, які перавезена сорак восем гадзін таму назад у ангар. Цывільныя замкнуліся ў ангары. І ніхто не мае права ўвайсці туды, нават генерал тэхнічнай службы, прыбыўшы разам з імі...

...У той жа дзень роўна ў сем гадзін вечара на камандным пункце паветранай базы Тыніян адбылася нарада. Галоўнакамандуючы ваенна - паветранымі сіламі ЗША на Ціхім акіяне генерал Спаатс запрасіў на гэту нараду генерала Гроўса, начальніка паветранай базы і трох афіцэраў — лётчыкаў, прыляцеўшых некалькі дзён назад кур'ерскім самалётам. Спаатс хадзіў па пакоі.

— Панове! Заўтра супроць Японіі будзе прымена новая зброя. Каб пазбегнуць агромных ахвяр, якія былі б непазбежны пры высадцы дэсанта на сушу, вырашана скінуць заўтра раніцай бомбу на цэнтр ваеннай прамысловасці ворага. Гэта бомба не вядомай дагэтуль выбуховай сілы. Яна была створана ў Лос-Аламосе пад шыфрам «План Манхетэн» пасля дзвюхгадовай строга сакрэтнай доследнай працы. (Над гэтым планам працавала, пачынаючы ад 1943 года, 125 тысяч чалавек — с. я.). Заўтрашні дзень увойдзе ў гісторыю нашай вайны, як дзень адпомсты за Пёрл-Харбор (разгром флоту ЗША — с. я.).

Тут генерал Спаатс прыпыніўся і звярнуўся проста да трох афіцэраў — лётчыкаў:

— Мы выбралі трох лепшых і вопытнейшых лётчыкаў нашых ваенна-паветраных сіл...

Шостага жніўня 1945 года! З-за небакраю падымаўся вогненны шар сонца...

Экіпаж самалёта ў поўнай баявой гатоўнасці. Лётчыкі стаяць навыцяжку перад генераламі Спаатсам і Гроўсам.

Абодва генералы гаварылі з кожным членам экіпажа, называючы яго па чыну і прозвішчу. Вярхоўны галоўнакамандуючы Спаатс моцна пацісную руку камандзіру «Б-29» палкоўніку Тыбетсу і сказаў:

— Палкоўнік, прыпамінаю вам яшчэ раз: разглядайце гэта даручэнне як знак асаблівага даверу. З часам вашае імя будзе занесена ў летапіс нашай краіны. Мне дана права запрапанаваць вам з увагі на выключную важнасць задання даць імя кіраванай вамі машыне. Назавіце гэтае імя.

Ашаломлены такім нечаканым гонарам, Тыбетс на секунду заплюшчыў вочы. Затым ён адвёў свой позірк ад генерала і ўглядзеўся ў паднябесную даль. Прайшло некалькі секунд. Рысы твару палкоўніка змягчыліся. Зрабіўся далікатным, амаль па-дзіцячаму мілым. Позірк палкоўніка зноў затрымаўся на генерале:

— Сэр, калі дазволіце, я хацеў бы гэтай машыне даць імя сваёй маці — Энола Гэй.

Галасней, чым Тыбетс, генерал Спаатс паўтарыў: «Энола Гэй»! Затым ён загадаў палкоўніку падняцца ў радыёрубку. Толькі там Тыбетс даведаўся аб аб'екце бамбёжкі. Генерал паказаў яму пункт на лётнай карце. Гэта быў горад. Ён называўся Хірасіма.

Камандзір «Б-29» «Энола Гэй» палкоўнік Тыбетс вёў машыну на вышыні васьмі тысяч метраў над цэнтрам горада Хірасіма. У зараднай камеры стралок маёр Ферэбі правяраў механізм бамбавога люка.

Ферэбі засёк цэль.

Бомбу спушчана.

З чартоўскім спакоем пачвара панеслася ўніз. Экіпаж «Энолы Гэй» надзеў, як было загадана, чорныя ахоўныя акуляры на кіслародныя маскі. Ніхто з лётчыкаў не вадаў, для чаго неабходны гэтыя акуляры. Ніхто не ведаў, што мае быць у наступную мінуту. Яны толькі выконвалі суровы загад. Знямоjoinжаныя страшным напружаннем, яны чакалі і, здавалася, чулі гук падаючай бомбы, але гэта было не так. Гэта тукала кроў, ганімая сэрцам па сасудах...

Пры дапамозе спецыяльна сканструяванага апарата над бомбаю раскрыўся парашут. Павіснуўшы на ім, бомба набліжалася да зямлі.

Стрэлкі паказвалі восем гадзін, чатырнаццаць мінут і пяцьдзесят секунд.

Бомба знаходзілася на вышыні шасцісот метраў над зямлёю. Калі ў восем гадзін пятнаццаць мінут бомба праляцела яшчэ сто метраў, апараты, створаныя вучонымі, уключылі ўнутры яе запал: нейтроны расшчапілі атамныя ядра цяжкага ўрану 235. Гэтае расшчапленне выклікала маланкавую ланцуговую рэакцыю, і на адну мільённую частку секунды загарэлася новае сонца з асляпляльным белым светам, — у сто разоў ярчэйшае ад нябеснага свяціла.

Гэты вогненны шар выпрамяньваў мільёны градусаў цяпла на горад Хірасіма. У гэту секунду згарэла восемдзесят шэсць тысяч сто чалавек. У гэту ж секунду семдзесят дзве тысячы чалавек былі цяжка паранены. У гэту ж секунду былі зметены з паверхні зямлі 6.820 будынкаў. Ад іх руін падняўся ў неба кіламетравы слуп попелу. У гэту секунду смерценосныя нейтроны і гама-праменні выбуховага рэчыва паразілі наваколле ў паўтара кіламетра.

**КАРЛ БРУКНЕР**

(Збеларушчыў — с. я.)

Карл Брукнер, вядомы аўстрыйскі пісьменнік. Урывак з рамана «Садако хоча жыць».

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### ЯЎРЭІ

Яўрэйская мова (называецца яна — «йідіш») у пераважнай большасці складзецца са слоў старанямецкага паходжання і са слоў стараяўрэйскіх (гебрайскіх). У друку ўжываецца алфавіт стараяўрэйскі. Стараяўрэйскай мовай яўрэі паслугоўваліся вельмі даўно таму, калі яшчэ жылі на сваёй айчыне — Палесціне (дзяржава Ізраіль займае сёння большую частку тэрыторыі званай калісьці Палесцінай).

Стараяўрэйская мова выводзіцца з групы слоў семіцкіх, да якіх, між іншым, залічваецца і арабская мова.

Каля 2 тысяч год таму назад Рымляне, пасля падаўлення паўстання яўрэяў, выгналі іх са сваёй айчыны. Частка яўрэяў пасля стагоддзяў дайшла да Германіі і тут асялілася. Ішлі гады. Яўрэі ў Германіі прынялі мову свайго асяроддзя, але не выбзбыліся і слоў стараяўрэйскага паходжання. Так стварыўся зародак новай мовы. Прыблізна 600 год таму назад значная частка нямецкіх яўрэяў з прычыны дазнаных там праследванняў перасялілася ў Польшчу. Польскія яўрэі далей паслугоўваліся мовай, якая сфармавалася ў Германіі. З часам яна ўзбагацілася словамі, набытымі з польскай мовы. У мінулым стагоддзі на мове «йідіш» паўстала літаратура. Прозвішчы яўрэйскіх пісьменнікаў, як Шолам Алейхем ці Бергельсон добра вядомыя і ў нас.

Сёння гэтай мовай карыстаецца частка яўрэяў польскіх, савецкіх, румынскіх, а таксама яўрэі ў некаторых краінах Заходняй Еўропы і абодзвюх Амерык (пераважна эмігранты з усходняй Еўропы). Частка яўрэяў аднак ніколі не карысталася мовай «йідіш» і па сённяшні дзень яе не ведае.

Гэта тыя яўрэі, якія пасля выхаду са сваёй айчыны асяліліся ў Іспаніі, Партугаліі, Францыі, Італіі, а таксама краінах Паўночнай Афрыкі і Блізкага Ўсходу. У Ізраілі афіцыйнай мовай з'яўляецца стараяўрэйская мова.

Лік яўрэяў на ўсім свеце сягае зараз 12 мільёнаў. Найбольшая колькасць яўрэяў у ЗША — 5,3 мільёнаў, СССР — 2,4 мільёны, Ізраілі — 2 мільёны, Англіі — 500 тысяч, Аргенціне — 450 тысяч, Канадзе — 300 тысяч, Францыі — 200 тысяч, Алжыры — 150 тысяч, Румыніі — 100 тысяч, і ФРГ — 35 тысяч.

а-вб.

### „ВЕКАВАЯ ПРАБЛЕМА" ВЫРАШАНА

Сельскагаспадарчым і гандлёвым работнікам вядома, колькі клопатаў дастаўляе перавозка і захаванне курыных яек. Аб прыгодах на гэтую тэму ёсць нямала апавяданняў і анекдотаў. Але як гаворыцца, усяму бывае канец... У Англіі пачалі прадаваць курыныя яйкі ў празрыстай пластмасавай упакоўцы. У такой упакоўцы яйкі не б'юцца пры перавозцы і не псуюцца.

## ПАШТОЎКА З ІНДЫІ

### ВЯЛІКАЯ ПРАЛЬНЯ

**На беразе рэчкі, паблізу двухмільённага Мадраса, бедныя зарабляюць мыццём бялізны. У гарачым сонцы яна сохне на вачах. (ся)**







 

 

# ВОСЬ ЗАМЫСЕЛ!

— Ты чаму парваў заручыны?

— Уяві толькі, яна хацела выйсці замуж за мяне!




## СНЫ КОЛЬКІ СПЛЮХА

# ЛЕТА

За гумном пачынаецца цэнтр горада. Званкі трамваяў палохаюць кабылу «Буланку». Проста — бяда са звозкай снапоў. А і самому цяжка вытрымаць на таку, бо дым ад матацыклаў і машын копціць праз шчыліны — коле ў горле.

Ускрай дзічкі мігаціць вулічны натоўп. Вось дачка Марыся ў белых штанах і сонечных акулярах прыветна махае мне рукою.

— Манька! — крычу да яе ва ўсёй голас. — Ты куды выбралася, смаркуля?! Па авёс трэ' ехаць...

Яна як бы не чуе маіх слоў; села на скутэр і паехала — за горад, на пляжу. Народ на тратуары павярнуўся ў мой бок і ў адзін голас сказаў:

— Цяперашнія дзеці не слухаюць бацькоў.

— То ж яно так, — згадзіўся я.

Думаю сабе: ой жа нашпару гэту Маньку — непаслушніцу!

Паглядзеў я на ўсіх пільным вокам і раптам злосць аж заламаталася ў грудзях.

— Эгэ, няма шчырасці ў вас, людкове.

Бачу — маладыя адварочваюцца задам, хіхікаюць; дарослыя моргаюць, быццам хацелі сказаць: — Маўчы, дурань. Старыя бабулі і дзядулі ад глухаты нічога не разумеюць, а малыя дзеці ссуць пальцы ў губах і пазіраюць раз на маладых, то зноў на дарослых, і таксама не могуць разабрацца, у чым справа?

Запрагаю «Буланку» ў воз і з прыгумення выязджаю на Плошчу Самапомачы. Спераду, з — за чарады легкавых машын, паявіўся трактар. Пыхкае — пасмейваецца, паганец,(!) з маёй кабылы: — Куды прэшся, цвёрдалобая! Хутка файрант — ідзі абедаць, а потым у кіно або на пляжу...

— Пашоў вон, лапатун! — замахнуўся я пугаю і хацеў шпарнуць яго па апонах, але ён шмыгануў у Ліповую Алею.

Набухторыў «Буланку», чарнамазы, ды годзе. Пачала яна круціцца — памахваць хвастом і пазіраць залётна па баках. Давялося добра здзяжыць яе лейцамі і ў хвост, і ў грыву, бо не было часу марудзіць. — Якраз паказалася зялёнае святло на скрыжаванні двух артэрый, што знаходзяцца каля Чабановага панадворку. Адсюль недалёка да Электроннага Камбіната, дзе летась пасеяў авёс.

Шырокай, асфальтаванай мяжою пад'язджаю да першай дванасткі. Прыкрываю раскладзіны пластыкаваю плахтаю, каб каласоў не губляць і бяруся грузіць фуру збожжам. Работа ніяк не клеіцца(!) — Што хачу павярнуць сноп, дык ён возьме і прыліпне да плахты. Балагану начоўп на возе бязмеры. Пярэвяслы паразвязваліся, уздырдыганілася салома. Засопся ўшчэнт, пот вісіць на носе вялікімі кроплямі.

— Гэй, дзядзьку! — чую за плячыма чыйсьці голас. — Хіба вы з вёскі, ці як?! Не ведаеце, як абыходзіцца з плахтаю?

Аглядаюся — стаіць ля воза лысы франт у кароткіх штоніках і паказвае бледным пальцам на нейкія апараты, падвешаныя на грудзях. — Марнуеце раўнавагу магнітнага поля, — усё крычыць ён.

— Чорт не возьме твайго поля! — адкрыкваю яму. — Вось з маім полем беданька; авёс сагніе на дажджы — глянь, чорная хмара насоўваецца ад Штучнага Мора.

А лысы як не заенчыць ад страху: — Разява старая! — хутчэй пераварочвайма плахту на другі, радыёактыўны бок! Разумееш!? Іначай пярун нас папаліць...

Пацее ён ды памагае шчыра — разам ратуемся ад смерці. І праўда, на радыёактыўным баку снапы не ліплі, лёгка клаліся адзін побач другога адно іскры з каласоў сыпаліся пры ўдарах далёкіх яшчэ бліскавіц.

Нацягнуўшы ўрэшце на верх жэрдку, кажу гэтаму незнаёмцу — дабрадзею: — Сядайце, паночку, наперадзе. Падвязу вас да Плошчы Самапомачы.

— З прыемнасцю скарыстаю з вашага запрашэння, — адказвае ён. — Хоць крыху адпачну на ўлонні прыроды.

Даграхіталіся так да Цэнтральнага Ронда, калі лінуў навальнічны дождж. Непрыемна, што госць мокне, ажно высоўваецца з-за закавулка той трактар — злыдзень і давай рагатаць:

— Га-га, пых-пых, Сцяпан вязе зяця на аўсе. Пух-пах, Марысіна вяселле зараз будзе...

Хацеў яго брыдка заклясці ды...

*

...прачнуўся.

**Колька СПЛЮХ**



ВЕТЛІВЫ

# ЭКЗАМЕН

Агата скончыла маторны курс. Пасля экзамену сяброўка пытае яе:

— Ты здала экзамен?

— Не. Але гэта несправядліва. На два пытанні я адказала добра, толькі на трэцім спатыкнулася.

— Якія гэта былі пытанні?

— Першае: імя і прозвішча, другое: го на аджэння, трэцяе: што гэта такое рухавік унутранага згарання.




Хацела б мець такі світар, як Бардотка...



БЕЗ СЛОЎ

Песні па заяўках

Па просьбе Віктара Харкевіча са Старога Ляўкова змяшчаем песню

# ОЙ ТЫ ХМЕЛЬ, МОЙ ХМЯЛЁК

— Ой ты, хмель, мой хмялёк,
Дзе ты зімаваў?
— Зімаваў, зімаваў
Ў лесе ля тычыны. (2)

— Ой ты, сын, мой сынок,
Дзе ты вандраваў?
— Я шукаў, выглядаў
Добрае дзяўчыны. (2)

Сядзіць голуб на страсе,
А галубка ў клеці, —
З адной дзеўчынай гуляю,
Другая на прымеці. (2)

— Ажаніся, не ляніся —
Будзеш панаваці:
З адной будзеш свінні пасці,
З другой заганяці. (2)

— Ой ты, сын, мой сынок,
Час за розум брацца:
Каб за тыя пераборы
У дурнях не астацца.

# НА АДПАЧЫНКУ

Калі селянін выбіраецца летам на адпачынак, яму не абавязкова ехаць на ўлонне прыроды. Гэтага дабра ёсць у нас поўна за кожным хлявом. Узбірацца на крутыя горы таксама лішняе. Навошта аглядаць горных авечак, калі свае бараны бэкаюць у вёсцы.

Застаецца толькі выезд над мора. І задумвацца тут няма чаго. Не кожная ж вёска мае за аколіцай мора.

Наш сусед выбраўся ў Арлова. Яно ў сезоне зусім прыпамінае мурашнік. На пляжы галышоў насеяна, як маку ў полі. Калі грамадзянін без нагавіц, не пазнаеш, хто гэта, інжынер ці сторож. Усе тут роўныя. Таму і знаёмства заключаюцца хутка, як набег хваль на пясчаны бераг. Не пабыў доўга адзінокі і наш сусед.

Лежачы пупам на цёплым пяску, ён заўважыў, што ў грамадзянкі, шакаладнае цела якой паблісквала побач, не толькі ўсё на сваім месцы, але нават некаторым часткам яе не хапала месца ў скупым купальным касцюмчыку.

Кінуўшы ў бок суседа некалькі таксуючых позіраў, незнакомка спытала:

— Даўно прыехалі? Я, выдаецца, недзе вас бачыла. Ці вы не рахункавод?

Тут суседа панесла курортная фантазія і ён схлусіў:

— Інжынер зоаагралогіі, — адракамендаваўся.

Зацікаўленне суседам у грамадзянкі адразу падскочыла, як ртуць на гарачым сонцы.

Не будзем мяшацца ў прыватныя справы грамадзян і аб вячэрніх прыключэннях суседа не напішам.

Вярнуўшыся ў вёску сусед, падвыпіўшы, прызнаўся ў сакрэце прыяцелю, што тая грамадзянка цалавалася безадрыўна аж да галавакружэння.

— Як п'яўка ўпецца ў цябе, чалавеча, — хваліўся ён.

Аднойчы ў абедзенную пару, гледзячы ў акно, сусед пабачыў, як па вуліцы ішла яго прыморская знаёмая. Жонка суседа ў той час сыпала з ганку ячмень курам. Прыезджая затрымалася каля яе і спытала:

— Ці не ведаеце, дзе тут жыве інжынер Бабковіч?

— Бабковіч жыве тут, але інжынера няма ва ўсёй нашай аколіцы, — адказала жонка.

— Я шукаю інжынера, і ён павінен тут быць, гаварыў жа, — паясніла прыезджая.

Сусед шмыгнуў у кладоўку, дзверы калком падпёр і таму далейшае гутаркі не чуў. Прытаіўшыся за дзвярыма, ён толькі пазнаў адну праўду, што хлусня — дробная манета, на якую доўга не пражывеш.

Вярнуўшыся ў хату і ўбачыўшы мужа, які выходзіў з кладоўкі, жонка спытала:

— Учарашняга дня шукаў там?

— Сумленне сваё хаваў, — прызнаўся сусед.

Жонка ўспрыняла гэта па-свойму і адказала:

— Не мудрагель, яшчэ нікому не ўдалося схаваць таго, чаго ён не мае. Інжынер ты няшчасны.

Што ж, людцы мілыя, бывае — у чалавека рот адзін, а язык раздвоены. Здараецца таксама, што па-за домам людзі лгуць у тры паверхі, але ці ім гэта ў карысць выходзіць?

*Дзядзька Лявон*

# ПАБАЧЫЦЬ НЭАПАЛЬ і...

Захоплены Нэапалем турыст вяртаючыся вечарам у гасцініцу заўважыў, што нехта з жыхароў чароўнага горада выцягнуў яму з кішэні партфель. Як жа ён здзівіўся, калі ў кішэні, з якой выцягнута партфель, намацаў каштоўны пярсцёнак. Мабыць гэты пярсцёнак зляцеў з пальца... злодзею, калі той акрадаў турыста. Вартасць пярсцёнка была шмат большая ад сумы грошай у партфелі турыста.

# БОЯЗНЬ

Двух бандытаў зачаіліся з пісталетам у цёмнай вулічцы, чакаючы на багатага прамыслоўца, які штодзённа тудою ішоў. Прайшла гадзіна, другая, трэцяя, прамыслоўца няма.

Тады адзін з бандытаў звяртаецца да другога:

— Ці яму, барані Бог, чаго дрэннага не сталася?



Адважны самазабойца.

 